# Школьная аўтаномія

***Што сёння можна сказаць аб дзяржаўным фінансаванні ўстаноў адукацыі? Хутчэй, што яго няма, чым яно ёсць. Пакуль "уверсе" вырашаюць - як быць, то "ўнізе" ўжо нешта прадпрымаюць. І што цікава: нягледзячы на складанае сацыяльна-эканамічнае становішча, насельніцтва гатовае плаціць (і плоціць) за сваю адукацыю. Школы, у барацьбе за бацькоўска-спонсарскую падтрымку, імкнуцца разнастаіць свае паслугі, павышаюць іх якасць. А таксама становяцца больш самастойнымі ў пытаннях размеркавання сродкаў, атрыманых з розных крыніц.***

***Пра гэта - размова з дырэктарам гімназіі №5 Мінска з эканамічным ухілам Людмілай Кузьмінічнай КАРАГІНАЙ.***

**- У педагагічных колах жыва абмяркоўваецца пытанне аб набыцці навучальнымі ўстановамі фінансавай самастойнасці, а ваша гімназія ўжо некалькі гадоў аўтаномна вядзе разлік сваіх прыходаў і расходаў. Як у вас так атрымалася?**

- Гэта было ў 1993 годзе. Тады ўрад прыняў пастанову аб новым механізме гаспадарання. І ў той момант усе, хто жадаў і не палохаўся, маглі пайсці на фінансавую самастойнасць, адкрыць свой рахунак. Мне хапіла смеласці. Раней даводзілася сутыкацца з праблемамі такога кшталту, калі ты хацеў нешта набыць для школы, а ў спісах неабходных рэчаў у райана тое не пазначалася і табе не дазвалялі. Зараз мы гаспадары і самі размяркоўваем свае сродкі.

**- І што вам дала незалежнасць ад бухгалтэрыі раённага аддзела адукацыі?**

- У фінансавай самастойнасці ёсць як адмоўнае, так і дадатнае. Пачнем з добрага. Па-першае, усе грошы сканцэнтраваны ў адных руках. Грошы бюджэтныя і спонсарскія. І мы можам распараджацца імі.

Другое, уся эканомія, усе прэміі, усе надбаўкі - у гімназіі. І я, згодна калектыўнаму дагавору, пераразмяркоўваю іх. Раней наша эканомія па заробку заставалася ў райана. А яна адкуль бярэцца? Напрыклад, захварэў настаўнік матэматыкі з вышэйшай катэгорыяй, а замяняе яго настаўнік з другой катэгорыяй. Вось і эканомія.

Да таго ж мая бухгалтэрыя - побач, і на афармленне якой-небудзь плацёжкі не трэба траціць палову дня, каб адвезці і прывезці яе.

Раней у настаўнікаў было шмат пытанняў па налічэнню заробку, і з усімі прэтэнзіямі яны звярталіся да каго?.. Да мяне, вядома. Цяпер жа яны ўсе патрэбныя адказы знаходзяць у сваёй бухгалтэрыі.

Дрэнны бок фінансавай самастойнасці. Па-ранейшаму наша фінансаванне ідзе праз райана, а той атрымлівае сродкі на нас ад райфінаддзела. Атрымліваецца марная трата грошай (працэнтаў за пералічэнне адзін аднаму грошай). Значна прасцей і эканомней было б атрымліваць фінансаванне ад райфінаддзела і яму напрамую весці справаздачу.

**- А бюджэтнае фінансаванне з самастойнасцю не скарацілася?**

- Не. Цяпер я дакладна ведаю, колькі мне належыць. Я валодаю становішчам.

**- Грошы прыходзяць да вас своечасова?**

- Так. Іншая справа, што іх недастаткова. Разумею, што ў краіне зараз усім цяжка. Нам, гімназіям, трэба крышку больш за звычайныя школы, але ж у гэтым годзе на фінансаванне з бюджэту нас ураўнялі.

Грошы на заработную плату нам аддаюць своечасова. Па камунальных паслугах бывае часам затрымка, але ж невялічкая.

**- Ці паўплывала вашая незалежнасць на заробак работнікаў гімназіі?**

- Канешне. І я патлумачу, чаму. У калектыўным дагаворы прапісана, што кожны настаўнік, незалежна ад якасці адукацыі, атрымлівае 20-працэнтную прэмію на стаўку (18 гадзін) і 5 працэнтаў - матэрыяльнай дапамогі на тую ж стаўку. А калі ён, напрыклад, выкладае 20 гадзін, ён усё роўна атрымлівае прэмію за стаўку, а грошы за дзве дадатковыя гадзіны трапляюць у эканомію, агульны кацёл. Але... З гэтай агульнай эканоміі ён можа атрымаць яшчэ больш прэміі. Тут мы заахвочваем за якасць работы - за ўдзел вучняў у алімпіядах, павелічэнне колькасці выдатнікаў і г.д. Мае настаўнікі атрымліваюць дадаткова да 100 тысяч рублёў прэміі. За дзесяць гадоў я ні разу не сутыкнулася з незадаволенасцю прэміямі.

Зараз я аб'явіла конкурс на лепшае афармленне класнага пакоя з прэміяй у 500 тысяч рублёў за першае месца. Ёсць да чаго імкнуцца!

**- Цяпер, каб неяк выжыць, навучальныя ўстановы спрабуюць самастойна зарабляць грошы - здаюць у арэнду памяшканні, аказваюць платныя дадатковыя паслугі, ствараюць камп'ютэрныя клубы і г.д. Нешта падобнае вы робіце?**

- У арэнду я практычна нічога не здаю, бо падатак на гэта вельмі высокі і яно эканамічна нявыгадна. Але я атрымала дазвол выканкама паставіць у гімназіі, непасрэдна ў калідоры, краму, дзе прадаюць сшыткі, алоўкі, гігіенічныя сродкі і г.д. - усё, што неабходна школьніку падчас навучання. Гэтая арэнда - на 6,7 кв.м, яна невялічкая, але карысная для школы. Раней дзеці за патрэбнымі рэчамі бегалі праз вуліцу ў магазін, а зараз ўсё побач. Апроч арэндных грошай, гаспадары крамы штомесяц забяспечваюць гімназію сваім таварам (маркеры, файлы, алоўкі і г.д.) у якасці спонсарскай дапамогі на суму 30-40 тысяч рублёў.

З платных дадатковых паслуг у нас ужо сем гадоў працуе школа "Малышок", у якой дзеткі 5-гадовага ўзросту рыхтуюцца да школы. Штогод набіраем два класы па 25 чалавек. Плата маленькая, але ўсё ж такі - дапамога фінансавая школе. Вось і ўсё.

**- А ў перспектыве вы не меркавалі над яшчэ якімі-небудзь прыбытковымі занятками для школы?**

- Так, думалі над пытаннем аказання паслуг насельніцтву ў навучанні замежнай (англійскай) мове. Нешта накшталт школы "Малышок". Або па паглыбленаму вывучэнню пэўных прадметаў. Разглядалі і пытанне з камп'ютэрным клубам... Але ж... Дзесяць гадоў нашай гімназіі, а за гэты час мы не рабілі ніводнага сур'ёзнага рамонту, бо гімназісты шануюць свае родныя сцены. А што здарыцца, калі прыйдзе "непадуладная" маса з мікрараёна? Мне страшна пускаць яе ў класы. Да таго ж камп'ютэры - дарагая рэч, якая хутка псуецца, а рамонт яе каштуе дорага.

**- Школа сёння не можа існаваць без спонсарскай падтрымкі. Хто вашыя спонсары?**

- Раней спонсарамі лічыліся шэфы. Але ж мне з імі крышку не пашанцавала. Арэнднае прадпрыемства "Крыніца" і Геафізічная экспедыцыя самі просяць падтрымкі. Шукаю спонсараў сярод бацькоў. Мне не сорамна да іх звярнуцца, бо ў гімназіі створаны найлепшыя ўмовы для вучэбна-выхаваўчага працэсу, дзецям тут камфортна, таму і бацькам падабаецца, што іх дзіцятка менавіта ў нас вучыцца. Не здаралася яшчэ такога, каб я звярталася да бацькоў, а тыя не згаджаліся дапамагаць.

Так, у мінулым годзе, калі дзяржава паклапацілася аб нас на дзевяць мільёнаў рублёў, дык бацькі ўклалі ў гімназію 31 мільён рублёў. Гэта аб нечым гаворыць? Вы б бачылі, колькі працы ў нас робяць бацькі, нібы тыя мурашкі. І ім падабаецца...

**- Ну, напэўна, вы валодаеце нейкім сакрэтам, як захапіць бацькоў школьнымі справамі?**

- Што і казаць. Я чалавек ва ўзросце, і ў мяне педагагічны стаж звыш 38 гадоў. Нечаму за жыццё навучылася... Ведаеце, што галоўнае - трэба любіць дзяцей. Бо бацькі глядзяць на мяне і на настаўнікаў вачыма сваіх дзяцей (яны ж не ведаюць мяне як чалавека). А калі дзецям тут добра, дык і бацькі прыйдуць да нас.

Я не магу працаваць за зачыненымі дзвярыма, яны заўсёды насцеж. Кожны прыходзіць да мяне параіцца, а далей ужо - майстэрства наладзіць размову.

**- Ёсць выказванні, што спонсарства ад бацькоў прывядзе да таго, што ў самыя лепшыя і моцныя школы будуць залічвацца толькі дзеці заможных. Ці не парушыцца ў такім выпадку справядлівасць і даступнасць у адукацыі?**

- Я не згодная з такім меркаваннем. Калі вы прасочыце за кантынгентам маіх вучняў, дык заўважыце, што там дзяцей бізнесменаў - адзін-два на клас. Я ўпэўненая што столькі ж і ў іншых школах. У нас займаюцца здольныя дзеці розных сацыяльных пластоў, мы размешчаны ў мікрараёне, дзе шмат заводаў.

У нас спонсарская дапамога заснавана на ўзаемадаверы. Грошы расходуем на дзяцей, адсюль - і якасць адукацыі, і 100-працэнтнае паступленне ў ВНУ. Таму нам і не сорамна папрасіць дапамогі ў бацькоў.

Буду шчырай. Вось, напрыклад, прыходзіць да мяне бацька (заможны чалавек) і просіць залічыць яго дзіця ў нашую прагімназію. А ў класе - некамплект. Я магу ўзяць яго дзіця, але найперш спытаю: "Скажыце, шаноўны, побач з намі прыватная школа, там адукацыя за месяц каштуе 270 даляраў, вы можаце сабе гэта дазволіць?Так. Аднак абралі нас (напэўна, мы - лепшыя!). Чым вы нам у такім разе можаце дапамагчы?". "Можам, - адказваюць і пытаюцца: - Чым і як?" Усю грашовую дапамогу яны пералічваюць на спонсарскі спецрахунак гімназіі, або адразу прывозяць патрэбны тавар. Гэта можна назваць вымаганнем?Ашукаць бацькоў немагчыма, яны давяраюць нам сваё дзіця і плацяць за гэта.

Вучацца ў нашай школе і бедныя людзі, над імі мы таксама бярэм шэфства. У мяне ёсць адзін хлопчык з інтэрната для сірот. Прыйшоў некалі ў мой кабінет, сеў насупраць, вось як вы зараз, і кажа: "Я - круглы сірата. Хачу стаць чалавекам, дапамажыце..." Як я магла адмовіць Лёшку? Званю дырэктару яго інтэрната і пытаюся, а той кажа, што Лёшка стаіць на ўліку як дзіця з затрымкай у псіхафізічным развіцці. Зараз хлопчык заканчвае гімназію, нават без троек, і куды падзелася тое ЗПР?

**- Услед да рэформай школы адбудуцца пэўныя змены ў сістэме фінансавання адукацыі. Вы можаце спрагназаваць, як яно будзе?**

- Што я ўвогуле хачу сказаць пра рэформу. Магчыма, гэта прагучыць не ва унісон. Але мне страшна, што рэформа парушыць нашую цэласнасць. Справа не ў падручніках і не ў праграме. Мы кажам - перагрузка, перагрузка. Паверце - не загружаныя нашы дзеці. Адсутнасць здароўя не ад гэтага. Прычына - у экалогіі і харчаванні.

Вось пяройдзем мы на пяцідзёнку. І суботу, па задуме, аддадзім пад розныя факультатывы. Атрымаецца, што пры жаданні вызваліць мы загрузім гэты дзень яшчэ больш. Факультатывы мала чым адрозніваюцца ад школьных заняткаў.

Да сённяшняга часу школы трымаюцца на тым, што было створана, сабрана раней. З кожным годам яно старэе, а фінансаванне з боку дзяржавы змяншаецца. Са студзеня я не атрымлівала ад райана ні аднаго рубля на развіццё ўстановы. А што такое сучасная школа без фінансавай падтрымкі? Калі справа не зменіцца ў лепшы бок, дык праз пяць гадоў ад школ нічога не застанецца. Чаму? Ды і таму яшчэ, што некаму будзе працаваць. Моладзь зараз працуе па-сучаснаму, ёй неабходны для работы аўдыё, відэа, наглядныя дапаможнікі, камп'ютэр, Інтэрнет. Маладыя настаўнікі (я гляджу па сваіх) - яны разумнейшыя за нас, больш начытаныя, дый - перспектыўныя.

Вучні таксама не захочуць займацца ў дрэнных умовах.

Мы так часта гаворым аб тым, што дзеці - наша будучыня, але не хочам аб ёй сёння паклапаціцца. Трэба выцягваць адукацыю.

***

**- Крышку зменім напрамак нашай размовы. Прайшоўшы сёння першы і другі паверхі гімназіі, я была здзіўлена мноствам экспанатаў дзіцячай творчасці. Калі б не шыльда пры ўваходзе, я б вашу школу прыняла за мастацкую. Людміла Кузьмінічна, калі ласка, прадстаўце чытачам вашую гімназію №5 з эканамічным ухілам.**

- Гэта амаль неверагодна - вось так расказаць пра сваё дзецішча, але я паспрабую. Некалі я, Дабрынеўская, Лабадаева стаялі ля вытокаў стварэння гімназічнага руху. Самі пісалі праграмы, распрацоўвалі статуты і г.д. Зараз нашая гімназія знаходзіцца на ўзлёце. Двойчы прайшла атэстацыю незалежнай камісіі, атрымаўшы самую высокую ацэнку.

Гімназія - унікальная навучальная ўстанова, якую можна было б падзяліць на дзве часткі: да 8 класа і з 8 па 11 клас. Я перакананa, што неталенавітых дзяцей няма. Галоўнае ў адукацыі - убачыць дзіця, разгледзець яго талент. Вы правільна заўважылі, што ў нашай гімназіі шмат займаюцца творчасцю. З 1 па 8 клас мы імкнёмся развіваць вучняў living рознабакова. У нас кожнае дзіцятка займаецца выяўленчым мастацтвам, музыкай, танцамі. У нас некалькі аркестраў (цымбалісты, скрыпачы), танцавальных ансамбляў, хораў. Яны - вядомыя калектывы, удзельнікі шматлікіх канцэртаў і фестываляў.

З першага класа гімназісты на павышаным узроўні вывучаюць англійскую мову, і ў іх ёсць такі прадмет як інфарматыка. Прафілізацыя пачынаецца з 8 класа - фізіка, інфарматыка, матэматыка. У год адкрыцця гімназіі (1991) адчувалася вялікая патрэба ў эканамістах, таму мы ўзялі сабе эканамічны кірунак. Зараз бачым пэўную перанасычанасць такімі спецыялістамі, таму вырашылі крышку змяніць сваю тактыку. У нас было пагадненне з Беларускім дзяржаўным эканамічным універсітэтам, 60 працэнтаў выпускнікоў туды паступалі. Цяпер у Беларускім дзяржаўным універсітэце інфарматыкі і радыёэлектронікі адкрыўся новы факультэт, які дае адразу дзве спецыяльнасці - эканаміста і праграміста. І мы заключылі з імі дагавор.

**- Дагаворы з ВНУ - гэта сумесная падрыхтоўка будучых студэнтаў?**

- Так. Але ў мінулым годзе, я лічу, Міністэрства адукацыі паспяшалася з рашэннем па адмове сумяшчальных уступных экзаменаў.

Усё роўна мае дзеці паступаюць, у нас 100-працэнтнае паступленне ў ВНУ.

**- І бацькі вашых вучняў не шукаюць рэпетытараў?**

- Я шмат размаўляла са сваімі бацькамі. Яны пакуль карыстаюцца паслугамі рэпетытараў. І ведаеце, чаму? Усё з-за разыходжання патрабаванняў школы і ВНУ да выпускніка. Рэпетытары дакладна ведаюць, што і як пытаюць у ВНУ. Але сёння рэпетытары разумныя, яны бяруцца толькі за дзяцей з добрай базавай падрыхтоўкай, бо яны ўсё-такі ў адказе перад бацькамі (плацяцца вялікія грошы!) за падрыхтоўку.

Але не ва ўсіх маіх дзяцей бацькі могуць наняць рэпетытараў, таму выдатна, што зараз з'явілася гэтае тэсціраванне. У мінулым годзе я ўпершыню адправіла сваіх выпускнікоў тэсціравацца: "Схадзіце, паглядзіце на свае здольнасці, вызначце прабелы ў ведах". Таму з 56 выпускнікоў мінулага года 30 на канец вучэбнага года былі ўжо залічаны ў ВНУ. Вось так.

Пра сваю гімназію я магу расказваць з раніцы да вечара, але ўсё роўна ўсё не адзначыш. Спынюся яшчэ на нашых двух любімых святах - дні бізнесмена і дні самакіравання.

Дзень бізнесмена праходзіць звычайна ў сакавіку-красавіку. Гімназісты на нейкі час становяцца дарослымі людзьмі - прадпрымальнікамі. Уся школа - у іх распараджэнні. Яны адкрываюць свае фірмы - фотамайстэрню, салон прыгажосці, кафэ і г.д. Тут усё, як у сапраўдным жыцці, бо яны запаўняюць дэкларацыі, плацяць падаткі. Ёсць і рэкет свой. Усім працэсам кіруе дзіцячая арганізацыя гімназіі - Школа энтузіязму, сяброўства і калектыўнай адказнасці. Вельмі цікава і весела атрымліваецца!

Другая традыцыя - дзень самакіравання. Самае любімае свята нашых малодшых вучняў, бо ў гэты дзень яны могуць атрымаць больш дзевятак і дзесятак. У ролі настаўніка - старшакласнікі, а настаўнікі сапраўдныя - адпачываюць. Дзень самакіравання прымяркоўваем ці да Дня настаўніка, ці да 8 Сакавіка.

**- Дзякуй за шчырую размову.**

**Хочацца пажадаць гімназіі фінансавага дабрабыту.**

**Святлана КІРСАНАВА.**

# Хто заказвае музыку?

## Давер атрыманы

На апошнім з'ездзе настаўнікаў Прэзідэнт нашай краіны з трыбуны сказаў аб тым, што дзяржава са свайго боку будзе, канешне, падтрымліваць школу, аднак дырэктарам і настаўніцкім калектывам трэба самім памеркаваць над тым, як падтрымліваць на патрэбным узроўні жыццядзейнасць сваёй установы.

Тады ж Міністр адукацыі падахвочваў кіраўнікоў школ больш актыўна прыцягваць у школу сродкі бацькоў і спонсараў. Дырэктару ў такім выпадку прадастаўляецца болей правоў і свабод. "Калі ж мы давяраем дырэктару дзяцей, дык чаму ж не можам даверыць яму кадры і грошы?" - заўважыў на з'ездзе П.І.Брыгадзін.

Выступаючы, не так даўно, на адным пасяджэнні перад кіраўнікамі школ К.С.Фарыно, намеснік Міністра адукацыі, заклікаў іх самастойна шукаць шляхі, каб стаць фінансава незалежнымі ад аддзелаў адукацыі. Дырэктар - бадай, ключавая фігура ў адукацыі, калі ў яго руках - школьныя сродкі. Казімір Сцяпанавіч, доўгі час будучы дырэктарам Політэхнічнай гімназіі Мінска, меў такую фінансавую незалежнасць і ведае, якія перспектывы яна адкрывае.

Тое, пра што асобныя кіраўнікі школ толькі марылі, - на паўдарозе да ўвасаблення. Давер у вышэйшых уладаў ёсць - і дырэктар становіцца паўнапраўным гаспадаром. Але ж на шляху незалежнасці шмат камянёў спатыкнення. І можа, яны - у першую чаргу ад нерашучасці самога кіраўніка, яго боязі самастойнасці і адказнасці, няведанні неабходных юрыдычных і эканамічных нормаў і законаў.

## Патрэба дня

Дадатковыя, платныя адукацыйныя паслугі (хоць і задумваліся з іншай мэтай) зараз разглядаюцца як адзін са спосабаў заробку сабе на жыццё ўстановамі адукацыі. Аднак масавае (няправільнае і непрадуманае) захапленне такім відам дзейнасці можа прывесці да непрыняцця і нават абурэння ў грамадстве. Пасля чаго натуральна чакаць забароны паслуг. Так звычайна і гінуць у нас добрыя пачынанні. Нельга спяшацца, трэба спачатку прыглядзецца да тых, хто ўжо гэтай справай займаецца.

Фрунзенскі раён сталіцы першым у горадзе пачаў прапаноўваць адукацыйныя паслугі за грошы. Але ні тады, ні зараз гэта не з'яўлялася мэтай заробку. Платныя дадатковыя адукацыйныя паслугі ўзніклі як патрэба дня. У праграме і школах не хапала ні часу, ні настаўнікаў для заняткаў па развіццю пэўных навыкаў, не прадугледжаных школьнай праграмай. Гэта адзначалі перш-наперш бацькі вучняў і першымі выступілі з прапановамі аб дадатковых занятках. Так было вырашана: усё, што звыш нормы (дзяржаўнага стандарту), бацькі аплачваюць самі.

У выніку ў дзіцячых садках і школах Фрунзенскага раёна ўзніклі гурткі на аснове самаакупнасці. Спецыялістамі аддзела адукацыі на працягу паўтара года распрацоўваліся палажэнне, пакет нарматыўных дакументаў, якія сёння можна лічыць эксклюзівам у рэспубліцы.

Працэс адкрыцця гуртка на аснове самаакупнасці - строга ўпарадкаваны. Пачынаецца ён з хадайніцтва дырэктара. Работнікі аддзела адукацыі старанна вывучаюць магчымасці школы, расклад заняткаў, праграму работы гуртка. Пры ўмове, што ўсё гэта на добрым узроўні, вядучы гуртка прымаецца на працу (з верасня па май), калі ж такі чалавек - проста прыватная асоба, дык з ім заключаецца пагадненне аб арэндзе памяшкання. Звычайна ў гуртках на аснове самаакупнасці працуюць выхавальнікі або настаўнікі гэтай жа школы, але прыцягваюцца і проста спецыялісты. (Так, у адным дзіцячым садку мастацтвам з дзецьмі займаўся сапраўдны мастак, а шахматам вучыў майстар спорту). Апошні нюанс у працэдуры стварэння гуртка - у навучальнай установе з бацькамі кожнага вучня асабіста заключаецца дагавор аб прадастаўленні платных дадатковых адукацыйных паслуг.

Аддзел адукацыі ўважліва сочыць за вынікамі работы гуртка. А калі шчыра, дык павышанага кантролю з боку кіраўніцтва тут і не трэба. Бацькі самі наглядаюць за карыснасцю заняткаў, і калі што не задаволіць, дык адразу скасуюць пагадненне.

Лідэрамі па аказанні платных дадатковых адукацыйных паслуг у раёне з'яўляюцца дзіцячыя садкі. Так, у 66 садках працуюць 105 гурткоў на аснове самаакупнасці.

Школы крыху абмежаваныя ў наяўнасці свабодных памяшканняў, аднак і яны могуць прапанаваць 56 дадатковых паслуг. Асабліва папулярныя - англійская мова, мастацтва, па развіцці дробнай маторыкі рук, харэаграфія (танец), шахматы, камп'ютэрныя гульні і г.д.

Кошт за наведванне аднаго гуртка, як многае іншае ў нашым жыцці, прывязаны да мінімальнага заробку і складае 0,75; 1; 1,5; 2 мінімалкі. Адміністрацыя навучальнай установы па сваім меркаванні вырашае, каго з бацькоў і на колькі вызваліць ад аплаты.

- Мы імкнёмся даць дзецям роўныя магчымасці, - зазначае Мар'яна Акіндзінаўна Шчоткіна, начальнік упраўлення адукацыі і па справах моладзі Адміністрацыі Фрунзенскага раёна Мінска. - Таму для дзяцей-сірот, са шматдзетных сем'яў і г.д. наведванне такіх гурткоў - бясплатнае.

Сродкі за гурткі трапляюць на спецрахунак школы (дзіцячага садка) аддзела адукацыі, імі маюць права распараджацца толькі самі аказальнікі паслуг. Але ў палажэнні ўсё ж пазначана, на што гэтыя грошы могуць быць патрачаны.

Адміністрацыя Фрунзенскага раёна падтрымлівае жаданне кіраўнікоў навучальных устаноў ствараць гурткі на аснове самаакупнасці. Вопыт лепшых у гэтай справе шырока абвяшчаецца. Так, увосень у раёне ладзіўся семінар-вучоба для дырэктараў школ і загадчыкаў дзіцячых садкоў, дзе давалася практычная інфармацыя: як падрыхтаваць навучальную ўстанову, соцыум да ўвядзення платных дадатковых адукацыйных паслуг, якіх правілаў трэба пры гэтым прытрымлівацца. Сёння працаваць стала лягчэй, бо ўжо маецца палажэнне, патрэбныя дакументы, пэўныя напрацоўкі.

## Спосаб павышэння якасці адукацыі

Яны былі першымі ў сваім Фрунзенскім раёне, хто рызыкнуў адукацыйныя паслугі аказваць за грошы. Зразумела, што за такую справу мог узяцца толькі кіраўнік смелы, які разбіраецца ў эканамічных і юрыдычных пытаннях, з добрымі арганізатарскімі, камунікатыўнымі здольнасцямі. Уладзімір Віктаравіч Власаў, дырэктар сярэдняй школы №149 з эканамічным ухілам - якраз такі чалавек. Пасля першай, педагагічнай, адукацыі ён атрымаў яшчэ і другую - эканамічную, мае вопыт работы ўпраўленца. Гэта з пачаткам менавіта яго кіравання школай звязаны яе пераход на новы кірунак - эканамічны.

Калі зрабіць спробу даць вызначэнне платным дадатковым адукацыйным паслугам у школе, дык гэта - дадатак вучэбных гадзін да існуючага школьнага кампанента, які зыходзіць з патрэб на вывучэнне тых прадметаў (або авалоданне тымі навыкамі), якім не хапае вучэбных гадзін па канцэпцыі развіцця школы. Гэтыя паслугі, як ужо адзначалася, узніклі па неабходнасці. Да ўвагі прымаліся пажаданні бацькоў, але вырашальная роля заставалася за адміністрацыяй школы. (Не ўсе бацькі знаёмыя з педагагічнай і псіхалагічнай навукай, таму яны не могуць правільна вырашыць, што і ў якім узросце карысна іх дзецям).

Як узнік у 149-й школе гурток "Моўны этыкет" (па англійскай мове)? Замежную мову ў школе пачынаюць вывучаць у першым класе, на гэты прадмет выдаткоўваецца дзве гадзіны ў тыдзень. Настаўнікамі было заўважана (навукоўцамі пацверджана!), што дзеці, прыходзячы на наступныя заняткі, праз два дні ўжо ўсё забываюць, трэба ўсё тлумачыць зноўку. Інфармацыя трымаецца ў галаве дзесьці суткі, і калі яе не падсілкаваць паўтарэннем або новай порцыяй, дык яна згубіцца. Заняткі па замежнай мове могуць быць эфектыўнымі пры штодзённым практыкаванні.

Ні для каго ўжо не сакрэт, што сёння бацькі, каб толькі дзеці засвоілі вучэбную праграму па замежнай мове ў звычайнай школе, вымушаныя наймаць рэпетытараў і плаціць за такія паслугі вялікія грошы. Іншая справа - школьны настаўнік-прадметнік, для якога вядзенне гуртка на аснове самаакупнасці - двайная зацікаўленасць: падтрымка матэрыяльная і стымул павышаць сваю кваліфікацыю.

Для многіх вучняў 149-й школы дадатковай матывацыяй служыць яшчэ тое, што ў старшых класах яны могуць абраць для сябе спецыялізацыю эканаміста-перакладчыка. Людміла Станіславаўна Аляшкевіч, загадчыца кафедры англійскай мовы, вельмі вопытны англазнаўца, адзначае высокую зацікаўленасць дзяцей і іх бацькоў вывучэннем замежнай мовы. Многія гурткоўцы падчас канікулаў наведваюць еўрапейскія краіны, дзе падмацоўваюць сваю размоўную практыку.

У гуртку "Моўны этыкет" вучні займаюцца па оксфардскіх падручніках, якія набываюць бацькі. Паводле слоў настаўніцы, гэты падручнік добры па многіх паказчыках, але галоўнае - матэрыял у ім падаецца цікава і па метаду праектаў. Заняткі ў гуртку праходзяць весела і цікава, дапамагае тут і нагляднасць. Людміла Станіславаўна не без гонару запрашала ў кабінет англійскай мовы палюбавацца іх скарбам - самай разнастайнай, высакаякаснай, прыгожай нагляднасцю (дарэчы, набытай за сродкі ад гурткоў платных, але якой карыстаюцца і на звычайных школьных занятках). Л.С.Аляшкевіч, як рэцэнзент Цэнтра вучэбнай кнігі і сродкаў навучання, ведае пра ўсе навінкі літаратуры, якія толькі з'яўляюцца ў кнігарнях, таму самае лепшае адразу трапляе ў школу. Якасць ведаў гурткоўцаў кантралююць бацькі, якія задаволены поспехамі сваіх дзяцей. А тыя ўжо ў сёмым класе без цяжкасці пераводзяць простую мову ва ўскосную з правільным дапасаваннем часоў (што не кожны першакурснік ВНУ зрабіць можа).

У пачатковай школе дзеці вывучаюць да дзевяці прадметаў, большасць з якіх скіравана на авалодванне нейкай інфармацыяй. Менш увагі ў школьнай праграме надаецца развіццю пэўных навыкаў. Той усеагульна вядомы факт, што актывізацыя дробнай маторыкі рук уплывае на фізіялагічнае і псіхічнае развіццё дзіцяці, спрыяльна ўздзейнічае на яго і пачуццёвую, і інтэлектуальную сферы, быў прыняты да ведама ў школе. Бацькам таксама не давялося шмат тлумачыць што да чаго, таму хутка арганізаваўся гурток для заняткаў па развіццю дробнай маторыкі рук, які празвалі больш прыгожа - "Дызайн". Кіруе ім Галіна Аляксандраўна Палачаніна, педагог-мастак. Да прыходу ў 149 школу яна працавала ў спецыялізаванай школе з таленавітымі дзецьмі, таму многія свае прыёмы перанесла адтуль. Гурткоўцы ў вялікім захапленні ад "Дызайну". Шмат работы ў ім звязана з іх жаданнямі, і дзеці займаюцца творчасцю без прымусу. Практыкаванні бываюць розныя, нават і не зусім вясёлыя. Накшталт работы па прописях, дзе трэба выводзіць старанна кружкі, штрышкі, загагулькі. Каб не засумна было ад такіх заданняў, Галіна Аляксандраўна ўвесь час змяняе іх - знайсці дарогу ад кошкі да мышкі, не адрываючы алоўка ад паперы і праводзячы лінію пасярэдзіне дарогі. Так паступова мацнее рука дзіцяці. І творчасць становіцца тэхнічна больш упэўненай. Гурткоўцы працуюць з рознымі матэрыяламі - фарбамі, алоўкамі, гуашшу і г.д. Вельмі цікавыя атрымліваюцца аплікацыі з пластыліну і пейзажы з пяску, клею і гуашы. Бацькі заўсёды могуць пазнаёміцца з вынікамі заняткаў сваіх пеставанцаў. На другім паверсе школы пастаянна экспануецца вернісаж дзіцячага мастацтва. Асабліва таленавітыя заслугоўваюць нават асабістай выставы.

Шахматы ў 149-й сярэдняй школе "прыжыліся" па прапанове некага з бацькоў і хутка палюбіліся. Валерый Віктаравіч Сафронаў - настолькі захоплены шахматным мастацтвам чалавек, што, толькі паслухаўшы яго колькі хвілін, хочацца хутчэй узяцца за гульню. Ён - ваенны дырыжор у адстаўцы і майстар спорту па шахматах. Валерый Віктаравіч усё жыццё рыхтаваўся да сваёй настаўніцкай дзейнасці - купляў шахматныя дошкі, збіраў інфармацыю пра знакамітых шахматыстаў, іх гульні, пра гісторыю шахматнага спорту. Для яго словы Сухамлінскага - "Без шахмат нельга ўявіць сабе выхаванне разумовых здольнасцей і памяці, таму яны павінны ўвайсці ў жыццё пачатковай школы як адзін з элементаў разумовай культуры" - служаць дэвізам. Настаўніцкі вопыт Валерый Сафронаў мае неблагі - двое яго родных дзяцей сталі шахматыстамі-першаразраднікамі. Ён лічыць, што шахматы - усім навукам галава. Што гульня ў шахматы - гэта жыццё ў мініяцюры. А ўжо выхоўваюць яны столькі добрых якасцяў, што і пералічыць цяжка. Толькі ў гэтай гульні дзіця бачыць ланцужочак сваіх дзеянняў - ад прыняцця рашэння і да яго выніку.

У Валерыя Віктаравіча - свае спосабы зацікавіць дзіця гульнёй. Ён ніколі не дае цяжкіх заданняў, а паступова павышае іх складанасць, бо дзеці павінны адчуваць пачуццё перамогі, асабістыя сілы; падахвочвае іх значкамі, прызамі; прыдумвае віктарыны і шоу на шахматную тэматыку.

"Не трэба прымушаць гуляць у правільныя шахматы. Я, канешне, кажу ім, як спачатку звычайна ходзяць пешкамі - е2; е4. Але дазваляю рабіць, як ім хочацца. Няхай наб'юць сабе "гузакі", тады зразумеюць, што трэба ў жыцці прытрымлівацца пэўных правілаў і слухаць вопытных дарослых, спецыялістаў. Так дзеці хутчэй становяцца самі дарослымі і прывыкаюць рабіць усвядомленыя крокі".

Акрамя трох пералічаных вышэй гурткоў на аснове самаакупнасці, у школе дзейнічаюць яшчэ два такія ж гурткі: "Рытміка і танец", "Па развіццю ўвагі, памяці, мыслення, уяўлення". І вялікая колькасць бясплатных гурткоў, назавём іх праграмнымі: этычная граматыка, здаровы лад жыцця, тэатральная дзейнасць, пачатак эканомікі і г.д.

Нельга лічыць, што дзеці, якія наведваюць бясплатныя гурткі, у нечым абдзелены. З імі займаюцца спецыялісты, ім прадастаўляецца ўвесь, які маецца ў школе, наглядны, спартыўны і гульнявы матэрыял, аб іх развіцці і здароўі клапоцяцца.

Перш чым адкрываць гурткі на аснове самаакупнасці адміністрацыя школы карпатліва пралічвала многія нюансы. Паколькі гурткі - дадатковыя, то яны не павінны нашкодзіць рэжыму дзіцяці, яго здароўю. Заняткі ладзяцца ў другой палове дня, пасля вялікага адпачынку і добрага абеду. У дагаворы з бацькамі абумоўліваецца, што яны могуць карміць дзіця дома, а могуць карыстацца паслугамі школьнай сталоўкі, але абавязкова гурткоўцы павінны атрымліваць трохразовае (сняданак, абед, полудзень) харчаванне.

У гурткі на аснове самаакупнасці прымаюцца толькі тыя дзеці, якія добра спраўляюцца з абавязковымі школьнымі прадметамі, далей разглядаецца здароўе, адсутнасць проціпаказанняў.

Традыцыйна ў пачатку новага навучальнага года ў школе праходзіць бацькоўскі сход, на якім вырашаюцца пытанні дастасоўна платных дадатковых адукацыйных паслуг. Школа - прадастаўляе паслугі, выстаўляе свае ўмовы. Бацькі-заказчыкі - своечасова ўносяць узнос за заняткі і клапоцяцца аб харчаванні дзіцяці. Сумесна абумоўліваюцца прычыны скасавання дагавора. Трэба сказаць, што грошы - не галоўная прычына пры скасаванні, школа сочыць, каб дзіця неператамлялася, не прапускала шмат заняткаў. Было распрацавана таксама палажэнне па льготах на аплату гуртка. Так, увогуле, бясплатныя яны для дзяцей работнікаў школы, з частковай аплатай - для бацькоў, чые дзеці займаюцца на "выдатна", і - пры ўмове, што два вучні з адной сям'і займаюцца ў іх школе.

- Грошы школе не лішнія, але яны не самамэта, як некаторыя разумеюць. Мэта ж - зыходзячы з нашых магчымасцей і ўлічваючы просьбы бацькоў, узняць якасць адукацыі, - тлумачыць У.В.Власаў, дырэктар сярэдняй школы №149 з эканамічным ухілам.

Платныя дадатковыя паслугі толькі дапамаглі замацаваць за школай імідж добрай навучальнай установы. Гэта ў будучым можа ўдала паўплываць на яе дабрабыт, бо абавязкова знойдуцца бацькі, спонсары, гатовыя дапамагчы высакароднай справе, якая выконваецца спецыялістамі на высокім узроўні.

**Ева ІСТРАЦЬКОВА.**

Семінары

# Гульня - справа сур'ёзная!

**_На мінулым тыдні прайшоў Рэспубліканскі семінар "Навучанне грамаце і матэматыцы дзяцей 3-6 гадоў па методыцы Мікалая Аляксандравіча Зайцава". Арганізатарамі семінара выступілі Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, Акадэмія паслядыпломнай адукацыі і Цэнтр развіццёвых педагагічных тэхналогій._**

У тэарэтычную частку семінара ўвайшлі навуковае абгрунтаванне методыкі Зайцава, прыёмы і формы арганізацыі заняткаў па навучанню грамаце і матэматыцы ў дашкольнай установе, прагляд і абмеркаванне відэазаняткаў начальніка цэнтра развіццёвых педагагічных тэхналогій Святланы Дзмітрыеўны Шакура па навучанню грамаце, а таксама відэазаняткаў самога распрацоўшчыка методыкі.

На практычную частку мерапрыемства яго ўдзельнікаў гасцінна запрасіў дзіцячы садок №495 Мінска. Аб тым, што ў садку працуюць па методыцы Зайцава, бацькі дазнаваліся адзін ад аднаго – працаваў так званы "жывы тэлефон". А пачалося ўсё з Клаўдзіі Васільеўны Паўлянковіч, якая пасля заканчэння спецыяльных курсаў стала заўзятай прыхільніцай гэтай методыкі.

Як і заўсёды, да ўсяго новага спачатку ставяцца з насцярогай. Вось і бацькі, наведваючы заняткі з выкарыстаннем новай методыкі, пільна сачылі за тым, што адбываецца. Потым пачалі заўважаць, што іх дзеці без лішняга напружання, нават з нечаканай лёгкасцю спасцігаюць асновы граматы і матэматыкі. Такім чынам, заняткі паступова набылі прызнанне. А з цягам часу праца па методыцы Зайцава пачала праводзіцца ў форме гурткоў, якія пасля былі пераведзены на платную аснову. Важна, што ў садку існуе пераемнасць элементаў методыкі на занятках музыкі, выяўленчай дзейнасці.

Удзельнікам семінара Клаўдзія Васільеўна прадэманстравала два "ўрокі": па навучанню грамаце і па матэматыцы. Прапануем іх вашай увазе, магчыма, вы знойдзеце ў іх для сябе шмат цікавага і карыснага...

### Матэматыка

Сярэдняя група. Займаецца па методыцы Зайцава першы год. Праца пачынаецца з таго, што Клаўдзія Васільеўна дэманструе сваім выхаванцам секундамер з мэтай выклікаць цікавасць у дзяцей, засяродзіць іх увагу.

1. Першае практыкаванне – лічэнне па табліцы. Педагог паказвае ўказкай, дзеці хорам вымаўляюць лік, спачатку ад 0 да 19, а затым у адваротным напрамку. Гэта практыкаванне эфектыўнае тым, што тут адразу задзейнічаны тры віды памяці: візуальная, акустычная, маторная. Да таго ж дзецям цікава і весела вымаўляць лікі разам.

2. Педагог паказвае дзецям карткі, на кожнай напісаны лік, які яны павінны назваць. Кожнаму, хто называе лік правільна, педагог аддае картку.

3. Пасля працы са спецыяльнай табліцай, у якой трэба падлічыць кружочкі, група пераходзіць да наступнага практыкавання. Педагог называе лік, кожны з дзяцей шукае ў сябе таблічку з такім лікам, і калі яна ёсць, вяртае яе выхавацелю. Цікава, што для лепшага ўсведамлення дзецьмі ліку педагог называе не проста трынаццаць, васемнаццаць, а і ўдакладняе: дзесяць і тры, дзесяць і восем.

4. Дзеці ўголас лічаць па табліцы любы дзесятак на выбар. Педагог засякае час лічэння, а потым паведамляе яго. У выхаванцаў з'яўляецца азарт: хто хутчэй?

5. Практыкаванне вельмі нагадвае лічбавае лато. Гульня называецца "СтоЛік". Дзецям раздаюцца вялікія карты, на кожнай з якіх – асобны дзесятак. А потым у кучу скідваюцца маленькія карткі. Дзеці павінны знайсці патрэбныя маленькія карткі і закрыць імі адпаведныя лікі на вялікай картцы. Пасля кожнае дзіця ўголас падлічвае свой дзесятак.

6. Задача: У магазін цацак прывезлі 54 бэтмены і 58 рабакопаў. (І тую, і другую лічбу педагог адзначае на табліцы і трымае на іх указку). Каб даведацца, наколькі больш рабакопаў прывезлі ў магазін, трэба падлічыць лічбы ад адной указкі да другой. Дзеці з дапамогай педагога з задавальненнем падлічваюць, паколькі ім цікавы сам змест задачы.

7. А гэтае практыкаванне – своеасаблівая гульня-рэбус. Педагог паказвае на картках зашыфраваныя характарыстыкі фігуры. Напрыклад, возьмем чатыры карткі: на адной намаляваны прамавугольнік, на другой – клякса жоўтага колеру, на трэцяй – хатка маленькіх памераў, чацвёртая змяшчае выяву тоненькага чалавека. Рэбус азначае, што фігура, якую дзеці павінны знайсці, – гэта прамавугольнік жоўтага колеру, маленькі, тонкі. Такім чынам, дашкалята засвойваюць класіфікацыю фігур па форме, колеру, памеры, таўшчыні. Дзіця, якое знайшло зашыфраваную фігуру, уголас называе яе характарыстыкі.

Для замацавання ведаў і лепшага асэнсавання матэрыялу педагог прапануе дзецям знайсці фігуру, не падобную да той, якая толькі што была ў яго руках, а потым параўнаць дзве фігуры: "Ці падобныя гэтыя фігуры?", "Чым падобныя, а чым адрозніваюцца?", "Гэты прамавугольнік вялікі ці маленькі?".

8. Апошняе практыкаванне – на замацаванне, дзеці разам з педагогам паўтараюць па табліцы ўсе дзесяткі.

Такім чынам, праз гульневую дзейнасць маленькія выхаванцы спасцігаюць асноўныя матэматычныя паняцці, яны зацікаўленыя, а таму ўважлівыя, што дазваляе хутчэй дасягнуць поспехаў у навучанні. Дзеці менш стамляюцца, да таго ж амаль увесь час знаходзяцца ў руху, бо пры такім навучанні ім неабавязкова сядзець за сталом нерухома, а можна пахадзіць па пакоі, пасядзець або нават паляжаць на дыване.

### Навучанне грамаце

Другая малодшая група. Навучанне грамаце здзяйсняецца пры дапамозе кубікаў Зайцава. Што яны з сябе ўяўляюць? Кубікі бываюць розныя... Ёсць "залаты" кубік, на якім змешчаны галосныя літары (дзецям не кажуць, што гэтыя літары называюцца галоснымі). Ёсць маленькія і вялікія кубікі, іх падзяляюць на жалезныя і драўляныя, такія кубікі змяшчаюць склады. Пазней дзецям тлумачаць, што на маленькіх кубіках намаляваны мяккія гукі, на вялікіх – цвёрдыя. Да таго ж нездарма кубікі Зайцава называюць "кубікамі, што будзяць душу дзіцяці": маленькія кубікі – звіняць і бразгочуць, а вялікія – шамацяць. Гэта зроблена для таго, каб пазней увесці паняцце глухасці, звонкасці. Вы, напэўна, здагадаліся, што на маленькіх кубіках – звонкія гукі, на вялікіх – глухія. Ёсць яшчэ і парныя кубікі...

1. У першым практыкаванні дзеці выбіраюць на "залатым" кубіку чароўную літару. У нашым выпадку гэта будзе літара О. Педагог знаходзіцца на адлегласці ад століка, на якім ляжаць кубікі. Калі дзіця знайшло ў складзе на кубіку літару О, яно бяжыць з такім кубікам да педагога, той паварочвае кубік у дзіцячых далонях, яны разам прагаворваюць склады і вызначаюць, ці ёсць тут літара О, ці "правільны" кубік прынесла дзіця.

2. Калі кубік вызначаны правільна, дзіця кладзе яго на спецыяльную паліцу. Пасля таго як паліца запоўнена, усе разам чытаюць тое, што на ёй атрымалася, і адносяць кубікі зноў на стол.

3. Гульня "Паравоз". Педагог аб'яўляе дзецям, што зараз яны ўсе разам паедуць у лес да дзікіх жывёл на паравозе. Кожнае дзіця выбірае, якую жывёліну яно возьме на паравоз разам з сабой: вожыка, зайца, ваўка, лісу, мядзведзя... Далей выхаванцы з дапамогай педагога складаюць з кубікаў назвы жывёл і ставяць іх на паліцу ўслед за паравозам, кожная назва – своеасаблівы вагончык. Пасля таго як праца скончана, усе разам чытаюць, хто едзе на паравозе. Потым дзеці самі інсцэніруюць паравоз. Педагог аб'яўляе, што пакуль мы ехалі, жывёлы паселі ў розныя вагоны. Хто цяпер у якім вагоне? А, можа, нехта выйшаў? Ану, давайце прачытаем. Калі дзеці вызначылі, хто з жывёл куды перасеў, а каго не хапае, педагог дае наступнае заданне: знайсці на паліцы пэўную "жывёліну" і аднесці яе на столік.

4. У заключнай частцы заняткаў дзеці разам з педагогам прагаворваюць пацешкі, тэкст якіх з малюнкамі вісіць у пакоі на сцяне, інсцэніруюць іх. Працуюць з кніжкай "Чытай і спявай": слухаюць песеньку пра "Бабку-Ежку", знаходзяць яе ў кнізе, танчаць.

Напрыканцы семінара прайшоў круглы стол "З вопыту працы", на якім абмяркоўваліся прадэманстраваныя заняткі, разглядаліся сітуацыі з працы іншых педагогаў, адзначаліся новыя падыходы да працы з бацькамі.

**Наталля АЛЁХІНА.**

# У малечы свае адукацыйныя патрэбы

## Адна з самых актуальных праблем, якія сёння хвалююць кожную дашкольную ўстанову - гэта праблема пераемнасці дзіцячага сада і школы

У нашым мікрараёне размешчаны пяць школ, чатыры з іх – школы новага тыпу: беларуская нацыянальная гімназія №4, сярэдняя школа №201 з эстэтычным ухілам, сярэдняя школа №193 з паглыбленым вывучэннем англійскай мовы і сярэдняя школа №185 з мастацкім ухілам. Для таго каб выканаць сацыяльны заказ (гэта значыць падрыхтаваць дзяцей да паступлення ў вышэйназваныя школы), мы сталі ўдзяляць больш увагі развіццю творчых здольнасцей і інтэлекту дашкольнікаў. І як вынік такой дзейнасці ў 1993 годзе саду быў нададзены статус дашкольнай установы з паглыбленым гуманітарна-мастацкім напрамкам у рабоце. Дзякуючы гэтаму ў штатны расклад дзіцячага сада былі ўведзены дадатковыя спецыялісты: выхавацель па выяўленчай дзейнасці, камп'ютэрнай грамаце і англійскай мове. Гэта дазволіла ажыццяўляць падрыхтоўку дзяцей да школы на больш высокім узроўні.

У апошнія гады мы працуем у цесным кантакце з педагогамі сярэдняй школы №185. У нас праходзяць сумесныя пасяджэнні метадычных аб'яданняў, педагагічныя нарады, узаемныя наведванні заняткаў у дзіцячым садзе і ўрокаў у школе, дні адкрытых дзвярэй і г.д. Такі падыход дае настаўніку магчымасць, з аднаго боку, вызначыць узровень развіцця будучых першакласнікаў, з другога – азнаёміць выхавацеля з патрабаваннямі, якія прад'яўляе школа.

Кожнае дзіця, незалежна ад узроўню яго развіцця, базы ведаў і ўменняў, мае шанц больш лёгка ўвайсці ў школьнае жыццё, калі будзе вытрымлівацца прынцып пераемнасці ў выхаваўчай дзейнасці педагогаў дашкольных устаноў, пачатковай школы і бацькоў саміх выхаванцаў.

Па выніках дыягностыкі, якую праводзіць псіхолаг у нашым садку, далёка не кожнае дзіця адчувае эмацыянальны камфорт у сваёй сям'і. Мы не застаемся безуважнымі да гэтых высноў, і сёння хочацца адзначыць, што адпаведныя паказчыкі ў час знаходжання дзіцяці ў садку значна вышэйшыя, чым дома.

Пры пераходзе дзіцяці ў школу звесткі аб праблемных сем'ях накіроўваюцца ў сацыяльна-педагагічны цэнтр раёна, а таксама ў школу, куды паступае выхаванец. Гэта дае магчымасць сацыяльнаму педагогу і настаўніку школы адразу звярнуць увагу на такую сям'ю і, па магчымасці, абараніць дзіця, аказаць яму дапамогу.

Галоўнай мэтай рэформы адукацыі з'яўляецца гуманізацыя вучэбна-выхаваўчага працэсу на аснове задавальнення асобасных і адукацыйных патрэб дзяцей з улікам індывідуальнасці і магчымасцей кожнага. Заканамерна ўзнікае праблема якасных змен, якія павінны адбыцца ў адукацыйным працэсе як у дашкольных установах, так і ў пачатковай школе.

Па-першае, змест адукацыі павінен адпавядаць патрабаванням сучаснага стандарта дашкольнай адукацыі, а менавіта: нам трэба даць той неабходны мінімум ведаў, уменняў і навыкаў, які павінен быць засвоены кожным выпускніком дзіцячага сада. Акрамя таго, мы прапануем і дадатковыя (платныя) адукацыйныя паслугі, такія як навучанне дзяцей англійскай мове, элементам камп'ютэрнай граматы, рытмічным рухам пад музыку.

Работа з кожным дзіцем заўсёды вядзецца з улікам яго індывідуальных разумовых і фізічных магчымасцей, а дзякуючы наяўнасці адпаведных спецыялістаў заняткі ў нашым дзіцячым садзе праводзяцца пераважна па падгрупах. Напрыклад, адна падгрупа займаецца англійскай мовай, а другая – пазнавальна-практычнай дзейнасцю, пасля чаго падгрупы мяняюцца месцамі.

Трэба адзначыць, што паспяховая рэалізацыя базіснай праграмы "Пралеска" магчыма толькі пры выкананні шэрагу ўмоў, вызначаных яе аўтарамі. І адной з іх з'яўляецца стварэнне развіццёвага асяроддзя, без якога напоўніць жыццё дзяцей зместам, неабходным для іх далейшага навучання ў школе, дастаткова складана. Вырашыць гэтую задачу можна толькі з дапамогай дзяржаўных або хоць бы рэгіянальных комплексна-мэтавых праграм, накіраваных на ўмацаванне матэрыяльна-тэхнічнай базы і стварэнне развіццёвага асяроддзя ў дашкольнай установе.

Сёння мы адзначаем значнасць працы псіхолага, уведзенага ў штатны расклад у 2000 годзе. Ён мэтанакіравана ажыццяўляе работу па аптымізацыі ўзаемаадносін у сістэме "дарослы – дзіця", дапамагае педагогу раскрыць індывідуальныя магчымасці дзяцей, вызначае ўзровень псіхалагічнай гатоўнасці будучага школьніка.

Узровень спецыяльнай гатоўнасці, гэта значыць узровень ведаў, уменняў і навыкаў дашкольніка, вызначаецца педагогамі дзіцячага сада, і кожнаму дзіцяці разам з медыцынскай картай выдаецца і карта выпускніка, дзе фіксуюцца атрыманыя вынікі. На жаль, гэтыя даныя часта застаюцца незапатрабаванымі, і ў школе праводзяцца паўторныя гутаркі з дзецьмі, што з'яўляецца, на нашу думку, немэтазгодным.

Другая састаўная частка адукацыйнага працэсу – выкарыстанне тэхналогій, з дапамогай якіх рэалізуецца асобасна арыентаваная мадэль навучання і выхавання, дзе для кожнага дзіцяці ствараюцца аптымальныя ўмовы для самарэалізацыі. Сродкамі забеспячэння пераемнасці з'яўляюцца педагагічныя тэхналогіі бесперапыннай дашкольна-школьнай адукацыі. Цяпер у рэспубліцы ідзе эксперымент па ўкараненню ў практыку работы праграмы "Школа-2100", якая прадугледжвае плаўны пераход дзяцей ад садка да школы.

Наш дзіцячы сад з'яўляецца эксперыментальнай пляцоўкай па ўкараненню тэхналогіі ТРВЗ у практыку работы. Галоўная яе вартасць заключаецца ў тым, што яна дазваляе значна павысіць узровень творчага мыслення і ўяўлення кожнага чалавека. У гэтай эксперыментальнай рабоце прымаюць удзел як выхавацелі групы, так і практычны псіхолаг, які праводзіць дадатковае дыягнастычнае абследаванне. У сувязі з гэтым мы лічым мэтазгодным унясенне ў Палажэнне аб эксперыментальнай рабоце дапаўнення аб устанаўленні даплаты псіхолагу, які працуе ў рэжыме эксперыменту.

Нельга забываць і пра тую велізарную ролю, якую адыгрывае ў адукацыйным працэсе педагог, прафесійная кампетэнтнасць і асабістыя якасці якога павінны забяспечваць вучэбна-выхаваўчы працэс новым зместам.

На жаль, да гэтага часу не вырашана пытанне аб скарачэнні працоўнага тыдня выхавацеля дашкольнай установы. На сённяшні дзень ён на шэсць гадзін большы, чым у выхавацеля падрыхтоўчага класа. Лічу, што трэба знізіць педагагічную нагрузку выхавацеля дашкольнай установы да трыццаці гадзін на тыдзень. Гэта, разам з іншымі ўмовамі, будзе садзейнічаць таму, каб першыя крокі дзіцяці ў школьнае жыццё былі больш радаснымі і ўпэўненымі.

**Марына КАЛІНІНА, загадчыца дзіцячага сада №527 Мінска.**

# Як я стала "зайчысткай"...

**_На пяцідзесятым годзе жыцця я нечакана для сябе сутыкнулася з праблемай: як навучыць дзіця чатырох-пяці гадоў чытаць без асаблівых цяжкасцей і турбот?_**

Дакладней, гэтае пытанне ўзнікала шмат разоў (я працую выхавальніцай у дзіцячым садку). Але тры гады назад мне проста неабходна было знайсці на яго адказ, бо трэба было навучыць чытаць дарагога мне хлопчыка чатырох гадоў. Я пыталася ў настаўнікаў, выхавальнікаў, ва ўсіх, хто звязаны з навучаннем. Нехта мне сказаў, што цяпер паявіліся "кубікі Зайцава", але больш падрабязна пра гэта нічога не ведаў.




Аднойчы ў метро я прачытала рэкламу, што ў Мінску ў Акадэміі паслядыпломнай адукацыі будуць арганізаваны курсы па навучанню дзяцей чытанню і матэматыцы па методыцы М.А.Зайцава. Я пазваніла па ўказанаму нумару тэлефона і запісалася на курсы. Так я стала "зайчысткай".

Першае ўражанне – усё так проста і даступна. Як гэта мы самі да гэтага не дадумаліся? Ніякага "аналізу", ніякага пакутлівага складання літар. Бегай, скачы, спявай – і ты ўжо чытаеш! Натхніўшыся, зарадзіўшыся невычэрпнай энергіяй М.Зайцава, я ўзялася за навучанне. Але аднаго дзіцяці мне ўжо было мала. Захацелася навучыць чытаць усіх дзяцей па такой "простай" і даступнай методыцы.

З гэтай ідэяй я звярнулася ў дзіцячы сад. Мне вельмі пашанцавала: і загадчыца, і метадыст падтрымалі мяне – і работа закіпела. Усе дапаможнікі, табліцы і кубікі я набыла за свой кошт. Кабінет афарміла паводле Зайцава: табліцы – высока, палічка для кубікаў, лаўка для дзяцей. Надрукавалі пацешкі, загадкі, прымаўкі, скорагаворкі. Потым усё гэта наклеілі на сцяну. Указкі нарэзалі доўгія (па 1,5–2 м), каб ніхто нікому не замінаў.

Дзецям вельмі спадабаліся новыя заняткі. Я не магла проста так зайсці ў групу або сустрэцца з дзецьмі на прагулцы. Тут жа з усіх бакоў крычалі: "Вы нас возьмеце гуляць з кубікамі? А нас?.."

Выхавальнікі паставіліся больш стрымана. Бацькі напачатку таксама асаблівай радасці не выказвалі. У тым сэнсе, што зноў новая методыка (колькі іх ужо было!), лепш бы на вуліцы больш гулялі. Але калі ўвесь сад заспяваў му-мо-ма-мэ-мы-м, сю-сё-ся-се-сі-сь і г.д., бацькі прыйшлі ў захапленне. Выхавальнікі ж прызадумаліся.

Праз 2–3 месяцы старэйшыя дзеці пачалі чытаць (пераважна па складах), усе ведалі шмат пацешак, скорагаворак. Тады я пачала дзяліцца вопытам работы на педагагічных нарадах. Выхавальнікі адзначылі станоўчыя вынікі: маўклівыя, ціхія дзеці сталі больш актыўнымі, пачалі лепш засвойваць вучэбную праграму.

Бацькі прыходзілі на заняткі. Спачатку здзіўляліся, што так усё высока наклеена, а методыка карэнным чынам адрозніваецца ад усіх астатніх (няма сталоў і крэслаў, не трэба сядзець і пісаць ручкамі). Дзеці пачуваюць сябе свабодна, камфортна, яны эмацыянальныя, радасць ад "напісаных" і прачытаных слоў свеціцца на кожным тварыку. І бацькі прынялі такое навучанне.

Першы год заняткаў паказаў высокую эфектыўнасць методыкі. Усе дзеці, ідучы ў школу, умелі чытаць, ведалі алфавіт, а таксама шмат скорагаворак, загадак, вершаў.

Першы год займаецца ў мяне Каценька. Ёй шэсць гадкоў. У яе праблемы са зрокам, носіць акуляры. Вядома, мама хвалюецца, просіць, каб не стамлялі дзяўчынку заняткамі, не прымушалі напружваць вочкі. Патлумачыла маме, што нашы заняткі не шкодзяць зроку. Мама пабывала на іх і пагадзілася са мной. І раптам праз нейкі час яна гаворыць: "Гэтыя заняткі маёй дачцэ не патрэбны, яна сама навучылася чытаць. Бярэ дома буквар і чытае. Мы не дазваляем ёй гэтага рабіць, бо зрок і так сапсаваны, але яна не слухае нас. Так што, думаю, вашы заняткі ёй лішнія". Падобны выпадак ужо другі. Але мне гэта прыемна чуць: я ж ведаю, хто навучыў дзяцей чытаць!

А вось Ліза вучыцца ўжо другі год. Разумная дзяўчынка, чытае, лічыць, піша. Але калі толькі пачынала хадзіць на заняткі, цэлы месяц заходзіла ціхенька ў кабінет, спынялася ля дзвярэй і ўсе заняткі стаяла моўчкі, не зварухнуўшыся. Дарэмна было ўгаворваць яе або нешта прапаноўваць. Праз месяц яна ўзяла кубік, яшчэ праз некалькі заняткаў пачала прымаць удзел у гульні з карцінкамі, але не гаварыла. Потым напісала сваё імя на кубіках. Да канца другога месяца яна ўжо паводзіла сябе вальней і нават пачала сваволіць. Выхавальнікі таксама заўважылі, што дзяўчынка стала больш эмацыянальнай, пачала актыўней адказваць на занятках.

У мінулым годзе мяне ўразіў Алёша. Ён займаецца ўжо другі год, яму будзе шэсць гадоў. Хлопчык чытае і піша. Калі мы пачалі з ім займацца, ён не ведаў ніводнай літары, яму ўсё было нецікава, вочы сумныя, ніякага ўдзелу ў занятках не прымаў. Напачатку я нават злавалася на яго. Мне хацелася, каб ён хоць адзін кубік перанёс са стала на паліцу. Але хлопчык глядзеў на мяне безуважна і нічога не рабіў. Я пакінула яго ў спакоі і, як высветлілася пазней, правільна зрабіла. Ён "працаваў" па сваёй праграме. Калі ўсе займаліся кубікамі, Алёша сядзеў пад сталом і адтуль назіраў, калі ўсе чыталі пацешкі, развешаныя па сценах, ён перастаўляў кубікі на паліцы з месца на месца. І раптам праз два месяцы ён напісаў сваё імя па табліцы, склаў яго з кубікаў, паставіў вялікую літару і заявіў, што можа напісаць імёны ўсіх дзяцей. І напісаў! З таго часу хлопчык пачаў чытаць і пісаць.

Дапамагае методыка і дзецям з дэфектамі маўлення. Другі год у мяне займаецца Саша. На занятках мы з ёй пісалі словы па табліцы і складалі іх з кубікаў. Але рабілі гэта, не завастраючы ўвагі на тым, што мы вучымся правільна вымаўляць гукі, проста пісалі. Цяпер яна ўсе гукі вымаўляе правільна.

Вось ужо трэці год я працую з кубікамі Зайцава. Ці падабаецца мне? Так! Лічу, што для дзяцей дашкольнага ўзросту гэта лепшая методыка. Галоўная яе вартасць у тым, што дзеці нават не падазраюць, што яны вучацца. Яны гуляюць, спяваюць, скачуць. Яны чытаюць!

Дзеці разняволеныя. Разам з імі і я спрабую стаць больш свабоднай. Я ўжо не баюся публічных выступленняў, больш лёгка ўступаю ў дыялог з кіраўніцтвам і незнаёмымі людзьмі. Вось я і раблю выснову: мы, "зайчысты", на правільным шляху, да старых методык вяртання быць не можа. Але ўжо методыку Зайцава трэба ведаць назубок! Уяўная прастата навучання дасягаецца вялікай папярэдняй працай выхавальніка.

У першы і другі гады працы я праводзіла заняткі строга па методыцы, нічога не выдумвала. Ды гэта і не трэба было: у метадычцы ўсё выдатна распісана. У мяне шмат нагляднага матэрыялу: дзвесце з лішкам загадак надрукаваны і наклеены на кардон, адгадкі пад нумарамі вісяць на сцяне, пацешкі з выдзяленнем націскнога складу і з каляровымі карцінкамі, скорагаворкі, вершы – таксама на сцяне. Другі экзэмпляр кожнай скорагаворкі разрэзаны на словы, якія наклеены на кардон, і ляжыць у канверце. У кожнага дзіцяці ёсць кніга "Чытай і спявай" (што яны з задавальненнем і робяць), два камплекты картак "Пішу прыгожа", прапісныя карткі.

На трэці год працы я пачала прыдумваць сваё – Мікалай Аляксандравіч не забараняе гэтага. Галоўнае, каб заняткі праходзілі цікава і дасягалася канчатковая мэта – навучыць дзяцей чытаць і пісаць. І гэта ў мяне атрымліваецца!

**Клаўдзія ПАЎЛЯНКОВІЧ, выхавальніца дзіцячага сада №495 Мінска.**
**Фота Юрыя БОНДАРАВА.**




Вопыт

# Выпрабаванне творчасцю

**_У апошні час у Рэспубліцы Беларусь ідзе станаўленне новай сістэмы адукацыі, арыентаванай на ўваходжанне ў сусветную адукацыйную прастору. Наваўвядзенні суправаджаюцца істотнымі зменамі ў тэорыі і практыцы вучэбна-выхаваўчага працэсу._**

Адной з дашкольных устаноў, дзе новыя тэхналогіі ўжо сёння прымяняюцца на практыцы, з'яўляецца наш дзіцячы сад №2 г.Крупкі з прыгожай назвай "Алёнка". 10 сакавіка гэтага года ён адзначыў сваё 33-годдзе. У двухпавярховым будынку, разлічаным на 6 груп, зараз выхоўваецца і вучыцца 113 дзяцей. Гэта 5 груп і адзін падрыхтоўчы клас.

Асноўнай задачай для нас, педагогаў, з'яўляецца забеспячэнне комплекснага падыходу ў вырашэнні выхаваўчых задач. Пры гэтым улічваюцца індывідуальныя асаблівасці кожнага дзіцяці па фарміраванню інтэлектуальна-творчых здольнасцей. Развіццё актыўных форм мыслення вядзецца на аснове выкарыстання элементаў ТРВЗ (тэорыя рашэння вынаходніцкіх задач) і іншых інавацыйных тэхналогій.

Такі падыход дазволіў кожнаму з выхавацеляў ужо сёння вызначыцца, у якім кірунку яны будуць назапашваць і абагульняць свой вопыт работы. Тут і тэатральна-гульневая дзейнасць (выхавацель С.М.Лучына), і ТРВЗ у комплексе з маляваннем (Ж.А.Каралькова), і ТРВЗ у комплексе з матэматыкай (Э.А.Часновіч), і ТРВЗ у комплексе з кулінарыяй (І.І.Мігаль) і іншыя.

З мэтай актывізацыі дзейнасці па кожнаму з кірункаў у садзе з лістапада 2001 г. па студзень 2002 г. праходзіў тэматычны кантроль "ТРВЗ – умова развіцця творчых здольнасцей дзяцей". Вынікі кантролю паказалі, што ўжо сёння назіраюцца зрухі наперад. У кожнай групе створаны цэнтр інтэлектуальнай дзейнасці, выхаванцы забяспечаны рознымі канструктарамі і будаўнічымі наборамі, якія набыты з дапамогай бацькоў. Тут жа знаходзяцца і развіццёвыя гульні, частка якіх зроблена рукамі выхавацеляў.

Заняткі рыхтуюцца адказна, і гэта забяспечвае даволі высокі ўзровень іх правядзення. Добрым прыкладам для пераймання з'яўляецца вопыт Ж.А.Каральковай, Т.М.Шурупавай, І.І.Мігаль, якія часта запрашаюць на заняткі бацькоў, далучаюць іх да стварэння вучэбных дапаможнікаў і абсталявання. Выхавацелі ўмеюць падняць узровень працаздольнасці, актыўнасці і зацікаўленасці дзяцей, актывізуюць іх разумовую дзейнасць.

І вось на чарговым пасяджэнні педагагічнага савета адбылося падвядзенне вынікаў работы педагагічнай каманды па фарміраванню інтэлектуальна-творчых здольнасцей дашкольнікаў. Форма дыскусійнага клуба "Творчасць, наватарства, майстэрства" была абрана невыпадкова. "Дуэль" дзвюх каманд "Познай-ка" і "Размышляй-ка" дазволіла выявіць узровень лагічнага мыслення, творчасці, уяўлення выхавацеляў. Заданні былі падабраны нялёгкія. Яны ўключалі рашэнне лагічных задач, задач-жартаў, конкурсы "Хто каму хто", "Выключэнне лішняга", "Ці валодаеце вы лагічным мысленнем?" і іншыя. Вынік сустрэчы – 3:7 на карысць "пазнаек". Але увесь калектыў паказаў сябе як творчая група, накіраваная на фарміраванне перадавога педагагічнага вопыту, які дазваляе з поспехам развіваць логіку, творчасць, уяўленне дзяцей, вучыць іх аналізаваць усё, што адбываецца ў навакольным асяроддзі.

Галіна Міхайлаўна Жалнерчык – загадчыца дзіцячага садка. Менавіта яна з'яўляецца ініцыятарам тых добрых пачынанняў, якія зрабілі наш садок адной з лепшых дашкольных устаноў Крупскага раёна. Дабрыня Г.М.Жалнерчык, яе энергія і дзелавітасць, патрабавальнасць разам з чулымі і ўважлівымі адносінамі да людзей з'яўляюцца прыкладам для педагогаў сістэмы адукацыі раёна.

Наша дашкольная ўстанова вось ужо 6 гадоў як узяла кірунак на паглыбленае экалагічнае выхаванне сваіх дзяцей. У 1997 г. створана спецыяльная група з экалагічным ухілам, выхавальніцай у якой з'яўляецца Таццяна Мікалаеўна Шурупава. Аб узроўні, на якім падаецца матэрыял, вядзецца выхаванне "маленькіх эколагаў", гаворыць той факт, што ў канцы сакавіка мінулага года вопыт работы Т.М.Шурупавай па экалагічнаму выхаванню прадстаўляўся на рэспубліканскай навукова-метадычнай выставе. У дзіцячым садзе працуюць выставы і тэатр на экалагічную тэму, добра аформлены экалагічны цэнтр. Усё гэта зроблена і створана рукамі выхавальніцы і яе выхаванцаў. Заняткі, распрацаваныя Таццянай Мікалаеўнай, ужо зараз прымушаюць задумацца "маленькіх эколагаў" аб беражлівых адносінах да прыродных рэсурсаў.

"Музыка – яе душа", так можна сказаць пра музычнага кіраўніка Ірыну Георгіеўну Шапавал, якая працуе ў нашай "Алёнцы". Музыка пастаянна прысутнічае ў жыцці дашкалят: яны з радасцю развучваюць песні і танцы, музычныя гульні, вучаць нотную грамату і вучацца іграць на музычных інструментах у аркестры. Усе заняткі, ранішнікі, святы, народныя абрады праходзяць заўсёды на высокім прафесійным узроўні, весела, з запалам і гумарам, з маляўнічай атрыбутыкай і афармленнем і надоўга застаюцца ў памяці ўдзельнікаў і прысутных. Пад кіраўніцтвам Ірыны Георгіеўны нашы выхаванцы паспяхова выступаюць і на аглядах-конкурсах раённага ўзроўню. З дзецьмі старшага дашкольнага ўзросту яна вядзе гурток "Музыка вакол нас".

Дзеці ўсяго дзіцячага сада вельмі добра ведаюць свайго кіраўніка па фізічнаму выхаванню Нону Генадзьеўну Бугаец і з радасцю спяшаюцца да яе на заняткі. Малыя ведаюць, што ў час зарадкі і на фізкультурных занятках абавязкова навучацца рабіць штосьці новенькае, пагуляюць у цікавыя рухомыя гульні, стануць яшчэ мацнейшымі і здаравейшымі, тым больш што ўсе практыкаванні і спартыўныя гульні адпавядаюць сезону. Напрыклад, зімой дзеці могуць "ператварыцца" ў сняжынкі або снегавікоў, імітаваць хаду лыжнікаў або канькабежцаў у зале, а восенню – у прыгожы залацісты лістапад або карагод грыбоў. А як цікава "ператварыцца" ў розных жывёл альбо герояў з мультфільмаў! А калі Нона Генадзьеўна вядзе ў падарожжа па чароўнаму лесу або зачараванай краіне з мноствам прыгод і перашкод, для пераадолення якіх патрабуецца праявіць усе свае спартыўныя навыкі, то ўсім становіцца весела і цікава! Як і на занятках па аэробіцы ў гуртку "Багіра", які таксама вядзе Нона Генадзьеўна! І ўсюды з усмешкай, з агеньчыкам запалу, жаданнем дапамагчы, калі штосьці не атрымліваецца.

Як бы там ні было, з'яўленне ўсё новых методык і развіццёвых тэхналогій – гэта толькі палова справы. Важна яшчэ і з душой, творча падысці да іх рэалізацыі, чым і займаюцца ў нашай "Алёнцы". Спадзяемся, што і аднадумцаў у нас шмат. А здаровыя і разумныя дзеткі – паказчык нашай працы.

**Вольга ЗМІТРАКОВІЧ, намеснік загадчыка дзіцячага садка №2 Крупак.**

